# наша свабода

**№39** **ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА**

**11 ЛІПЕНЯ 2000 года**
**АЎТОРАК**

Адрас: **220123, г.Мінск, а/я 103**

E-mail:
**NPSvaboda@irex.minsk.by**
**http://www.svaboda.com**

**КОШТ СВАБОДНЫ**





# Зноў знікаюць людзі

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Таямніча знік аператар расійскай тэлекампаніі ОРТ Дзмітрый Завадскі. Пад падазрэннем – беларускія спецслужбы. Зрэшты, так лічыць калега і начальнік Д.Завадскага Павел Шарамет. Адміністрацыя прэзідэнта ў сваю чаргу вінаваціць апазіцыю.**

Усё адбылося ў мінулую пятніцу. У 10 гадзінаў ранку Дзмітрый выехаў з дому на службовай аўтамашыне *Skoda Forman* у аэрапорт «Мінск-2» сустракаць Паўла Шарамета, які прылятаў з Масквы. Самалёт мусіў прызямліцца ў 11.00-11.05. На тое, каб дабрацца да аэрапорта, у Д.Завадскага звычайна ішло 45-50 хвілінаў. Як сведчыць П.Шарамет, ён ужо шмат разоў прылятаў у Мінск менавіта гэтым рэйсам, і кожны раз яго сустракаў Д.Завадскі.

«Машына стаяла побач з будынкам аэрапорта, як звычайна. Яна была зачыненая. Я пачакаў яшчэ хвілінаў трыццаць, а потым пачаў пошукі Дзмітрыя», – паведаміў П.Шарамет.

Па ягоных словах, ён амаль адразу зрабіў заяву ў міліцыю па факце знікнення чалавека. Міліцыя спачатку адмаўлялася браць заяву – трэба, каб з моманту знікнення прайшло не менш за тры дні, але потым пасля пэўнага ціску пагадзілася.

Кіраўнік карэспандэнцкага пункта ОРТ у Мінску Дзмітрый Наважылаў паведаміў, што следства вядзе беларуская транспартная пракуратура. Ён лічыць, што міліцыя сапраўды робіць усё магчымае. Тры дні салдаты ўнутраных войскаў прачэсвалі лес вакол аэрапорта. Там жа працавалі кінолагі з адмыслова абучанымі сабакамі. Вынік нулявы. Дзмітрый Завадскі знік, і няма абсалютна ніякіх слядоў.

Павел Шарамет распавёў, што супрацоўнікі карпункта разам з міліцыяй ускрылі аўтамашыну, на якой Д.Завадскі прыехаў у аэрапорт. Эксперты не выявілі ніякіх слядоў насілля. Машына была пастаўленая на сігналізацыю, як звычайна. І, як паведаміў Д.Наважылаў, аўтамагнітола была схаваная менавіта на тым самым месцы, дзе яе заўсёды хаваў Д.Завадскі. Такім чынам, хутчэй за ўсё аператар знік ужо пасля таго, як прыехаў у «Мінск-2».

«Там жа ісці ад машыны да залы прылётаў – 50 метраў, усё на відавоку. Месца не пустыннае. Побач аўтобусы прыпынак, стаянка таксі, зал прылётаў для рэйсаў з далёкага замежжа. Прыкладна ў той жа час з маскоўскім рэйсам прылятае самалёт з Франкфурта. Народ паўсюль быў», – кажа Д.Наважылаў. Па ягоных словах, усім, хто мог быць у аэрапорце ў той час і каго маглі знайсці, паказалі фота Дзмітрыя Завадскага, пыталіся, ці не бачылі яго дзе. Адзін насільшчык нібыта бачыў хлопца, падобнага на журналіста, які прагульваўся па зале прылёту. Але поўнай упэўненасці няма.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Калі Вы бачылі гэтага чалавека пасля 7 ліпеня ці нешта ведаеце пра ягоны лёс, патэлефануйце, калі ласка, па тэл. у Мінску 279-10-02 (дзяжурная частка) або 213-34-67 і 276-75-46 (карпункт ОРТ).

На думку кіраўніка карпункта ОРТ, верагодна, што Д.Завадскага пасадзілі ў іншую машыну і адвезлі кудысьці. Пры гэтым журналіст, відаць, сядаў у машыну сам, без бачнага прымусу. Любы канфлікт запомніўся б сведкам – тым больш, што ў тым жа зале прылётаў знаходзіцца дзяжурнае аддзяленне міліцыі.

Як паведаміў Дзмітрый Наважылаў, Д.Завадскі працуе на ОРТ амаль чатыры гады. Апошнім часам ён не мог выконваць заданні ў Беларусі. З невядомых прычынаў міністэрства замежных справаў некалькі разоў адмаўляла яму ў акрэдытацыі, без якой журналіст замежнага СМІ не можа працаваць на тэрыторыі Беларусі. І два месяцы таму журналіст перайшоў з беларускага карпункта на працу ў Маскву – у аддзел адмысловых інфармацыйных праектаў дырэкцыі грамадскага палітычнага вяшчання ОРТ. Гэты аддзел ачольвае Павел Шарамет. Іхняя першая сумесная праца – фільм «Чачэнскі дзённік», паказ якога ўчора ўвечары пачаў канал ОРТ.

Па словах Д.Наважылава, кіраўніцтва ОРТ вельмі заклапочанае сітуацыяй. Генеральны дырэктар кампаніі Канстанцін Эрнст накіраваў ліст А.Лукашэнку з просьбай зрабіць усё магчымае, каб знайсці журналіста. Міністр унутраных справаў Расіі Уладзімір Рушайла ўжо тэлефанаваў беларускім калегам з такой жа просьбай.

З прафесійнага пункту гледжання калегі вельмі задаволеныя працай Д.Завадскага. Па словах П.Шарамета, ён лічыцца адным з лепшых аператараў кампаніі, і з ім ахвотна працуюць усе тэлежурналісты. ▶

*Заканчэнне на стар.2*

# Грустное прощание с Беларусью

**Посол США в Беларуси Дэниэл Спекхард завершает свою работу. Именно на трехлетний период его работы в Минске выпали непростые испытания американо-белорусских отношений. Один только скандал с выселением из резиденции в Дроздах чего стоил.**

Многим гражданам Беларуси посол Д. Спекхард запомнился своей искренностью, открытостью и твердостью, когда порою в трудных для него условиях приходилось отстаивать демократические принципы. Симпатии к Д. Спекхарду люди нередко проявляли и потому, что видели, у кого личность американского посла вызывала злобу. На некоторые вопросы господин Посол любезно согласился ответить корреспонденту НАШАЙ СВАБОДЫ.

***— Господин Посол, чем обогатился Ваш опыт дипломата за годы работы в Беларуси?***

— Это был один из самых серьезных вызовов, который бросила моя карьера. По завершению этих трех лет моей работы в Беларуси я могу сказать о том, что очень многое было достигнуто. Я наблюдал, как развиваются демократические силы в Беларуси, приходит к руководству оппозиционных партий молодое, новое поколение политиков. Я также мог видеть, как в рядах оппозиции происходит консолидация и меняялось к ним отношение со стороны международного сообщества. Процессы становления происходили и у неправительственных организаций. Думаю, что именно они смогут внести большой вклад в такие сферы, как здравоохранение, экология, охрану окружающей среды и даже в политическую сферу вашей жизни. Конечно, эти процессы способствовали обогащению моего дипломатического опыта.

***— А чего так и не удалось достичь?***

— Это неприятно, но я вынужден говорить о том, что не наблюдал в Беларуси того роста и укрепления демократических институтов, на которые мы надеялись. В первую очередь это касается отсутствия разрешения конституционного кризиса, начало которого было положено в 1996 году. К этой проблеме можно отнести и то, как Вашингтон считает, что за последние три года в Беларуси ухудшилось положение с правами человека. При этом особое внимание мы проявляем к фактам исчезновений трех известных политических деятелей — Юрия Захаренко, Виктора Гончара и Анатолия Красовского. А также к судебным процессам над рядом оппозиционных политиков. А в общем, отвечая на ваш вопрос, следует признать, что можно было сделать гораздо больше.

***— Во время последнего визита президента Клинтона в Москву многие, здесь в Минске, ожидали, что в беседах с Путиным будет присутствовать и белорусская тема. Однако, после стали говорить, что эту тему американцы «обменяли» на компромисс со стороны Москвы в вопросе развертывания США национальной системы ПРО. Были ли основания для такого рода суждений?***

— Я категорически готов заявить, что никакого «обмена», о котором вы спрашиваете, между США и Россией не было. Насколько я знаю, президенты Клинтон и Путин не обсуждали в Москве белорусский вопрос. Но это не имело какого-либо отношения к другим вопросам, которые у них стояли на повестке дня.

***— Однако, как известно, сенаторы и конгрессмены настоятельно рекомендовали президенту поднять этот вопрос в Москве. Вы можете сказать, почему этого не произошло?***

— К сожалению, я должен буду вас попросить переадресовать этот вопрос к Вашингтону, поскольку я на данной московской встрече не присутствовал. Я лишь могу сказать, так как мне приходилось работать на других встречах глав государств, что, как правило, на таких встречах повестка дня очень насыщена и сжата и требует за короткое время обсудить много вопросов. И очень часто какие-то вопросы не выносятся на повестку дня не потому что они малозначимы, а просто есть возможность их разрешить какими-то другими путями. Я знаю, что белорусский вопрос продолжает для Вашингтона иметь очень большое значение и находится в центре внимания государственного секретаря США, советников президента Клинтона из Совета национальной безопасности. ▶

*Окончание на стр.3*

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **У Гродне ў цэнтры горада адчыніўся першы буцік пад назвай «Тэдзі».** Дагэтуль штосьці падобнае існавала толькі на вялікім рынку за горадам. Крамы з шыкоўным адзеннем у Гродне чамусьці не прыжываліся. Хаця, мяркуючы па колькасці заходніх машынаў, не скажаш, што ў горадзе няма заможных людзей. Аднак звычайна яны купляюць сабе рэчы ў Польшчы альбо ў сталіцы.

■ **Беларуская тэнісістка Наталля Зверава аштрафаваная на 1.000 долараў.** Пасля таго, як яна разам з расіянкай Ганнай Курнікавай праіграла матч сёстрам Уільямс, тэнісістка прадэманстравала гледачам непрыстойны жэст. Як паведамляе агенцтва *Associated Press*, жэст прадстаўляў сабой «адтапыраныя сярэднія пальцы на абедзвюх руках». Арбітр Алан Мілз вырашыў наказаць Н.Звераву за неспартыўныя паводзіны.

■ **У бліжэйшы час можа ўскладніцца сітуацыя на Чарнобыльскай АЭС – яе праца ўжо перапыненая.** Пра гэта паведамляе агенцтва ІТАР-ТАСС. Рашэнне аб спыненні працы атамнай электрастанцыі было прынятае пасля таго, як у выніку лівневых дажджоў былі затопленыя яе блокі.

■ **Беларускі камбінат «Белшына» на міжнароднай выставе «Райфен-2000» заключыў кантракты на 10 мільёнаў долараў.** Камбінат прымаў удзел у гэтай выставе ўжо трэці раз. Асаблівую цікаўнасць пакупнікоў выклікалі грузавыя, будаўнічадарожныя і сельскагаспадарчыя шыны, паведамляе кіраўніцтва прадпрыемства. Рэальныя замовы паступілі ад 12 фірмаў з Вялікабрытаніі, Галандыі, Бельгіі, Германіі і іншых краінаў.

■ **Кааліцыйны ўрад Ізраіля працягвае развальвацца.** Яго пакінуў міністр унутраных справаў Натан Шчаранскі, лідэр партыі рэпатрыянтаў «Ісраэль ба-Алія» і былы савецкі палітзняволены. Гэта адбылося напярэдадні палесцінска-ізраільскіх перамоваў у Кэмп-Дэвідзе, якія пачынаюцца сёння і мусяць канчаткова вызначыць пазіцыі бакоў у пытанні аб стварэнні незалежнай Палесціны. Прычына сыходу Н.Шчаранскага – адмова прэм'ер-міністра краіны Эхуда Барака дакладна вызначыць межы саступак палесцінцам, на якія ён можа пайсці падчас перамоваў. Услед за міністрам унутраных справаў урад збіраецца пакінуць яшчэ некалькі міністраў. У апошні момант стала вядома: у адстаўку афіцыйна падае прэзідэнт Ізраіля Эйзер Вейцман.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**980**

# Грустное прощание с Беларусью

*Окончание. Начало на стр.1*

***— Так совпало, что после своего визита в Москву президент США решил продлить для Беларуси срок действия режима нормальных торговых отношений. Не секрет, что многие прогнозировали принятие другого решения. Как, например, с отменой режима обобщенной системы преференций. Чем вызвана такая разность решений в отношении этих двух режимов отношений с Беларусью?***

— Необходимо проводить различия между нормальными торговыми отношениями и теми преференциями, которые даются в рамках обобщенной системы преференций. В законодательстве США предусмотрены очень разные требования, которые должны соблюдаться в отношении этих двух режимов отношений. Хочу напомнить, что, несмотря на возникавшие сложности в двусторонних отношениях, режим нормальных торговых отношений продлевался на протяжении всех трех лет моей работы в Беларуси.

***— Можно сказать, что три года своей жизни Вы посвятили Беларуси. Что лично у Вас вызывает озабоченность в отношении ее ближайшего будущего?***

— Я чувствую большую озабоченность относительно молодого поколения Беларуси. Перед молодыми людьми остаются закрытыми многие возможности, которые могли бы быть открыты в результате проведения, в том числе и на протяжении трех последних лет, экономических реформ в Беларуси. Эти реформы могли бы создать условия для привлечений инвестиций, открытий зарубежных предприятий, которые бы создавали здесь рабочие места, и т.д.

— Второй вопрос, который вызывает мою озабоченность, это постоянно растущая зависимость, экономическая зависимость от России. Очень важно, чтобы у Беларуси были крепкие, прочные торгово-экономические отношения с Россией. Но поскольку Беларусь является небольшой страной в центре Европы, то для нее важно иметь разносторонние отношения с как можно большим количеством государств.

Одним отрицательным моментом в экономических отношениях с Россией, о котором не так уж много говорится, является то, что очень многое делается на основе взаимозачетов и бартерной торговли. Суть ее заключается в том, что такая торговля происходит на основе переговоров между официальными лицами, которые пытаются выработать наиболее приемлемые для каждой стороны условия. Такой подход в установлении отношений означает, что ни цены заключаемых контрактов, ни рынки не становятся прозрачными. В том числе и для самих белорусов. Они не знают, какие товары производятся, обмениваются, куда идут вырученные деньги. Еще одним отрицательным моментом является то, что в результате бартерной торговли отсутствуют денежные потоки, которые можно было бы направлять на развитие производства.

***— Во время работы в Минске с кем из официальных лиц у Вас сложились дружеские отношения? И с кем из них можно было бы связывать будущее Беларуси?***

— Мне не хочется говорить того, чтобы могло повлиять на статус будущих лидеров Беларуси. К тому же у меня такое ощущение, что если я с кем-то здесь налаживаю дружеские отношения, то у них это обязательно вызовет проблемы с властями. Понимая вашу принадлежность к оппозиционному изданию, тем не менее, я хочу сказать, что и в среде официальных лиц мне приходилось сталкиваться с большим количеством по настоящему талантливых, одаренных людей. И для меня было большой честью работать с ними. Впечатления, которые я вынес от общения с такими людьми, такие: они хотят каких-то изменений не в меньшей степени, чем представители демократической оппозиции, с которыми я общался. В первую очередь изменения нынешней политики.



Фота REX/ProMedia

***— Мы все помним, как произошла встреча А. Лукашенко с Б. Клинтоном в Стамбуле на саммите ОБСЕ. Мне довелось это лично наблюдать. По-моему, Ваш президент не сразу понял, что произошла встреча. Так это представила гражданам Беларуси официальная пропаганда. Уже объявлено, что глава белорусского государства выступит 6 сентября в Нью-Йорке, в здании ООН на «саммите тысячелетия». Господин Посол, можно ли в этом году ожидать каких-то контактов между Вашингтоном и Минском на высоком уровне?***

— Я не вижу оснований для такого рода ожиданий. В определенной степени это вызвано и тем, как белорусские власти в течение года демонстрируют свое отношение к инициативам ОБСЕ по налаживанию переговорного процесса с оппозицией. Из-за неоднократных кадровых замен участников этого процесса, изменений своих подходов к нему многое теряется и уже потеряно.

***— Действительно ли существуют разногласия между США и Европой в отношении Беларуси, о которых любят говорить как во властных, так и в некоторых оппозиционных структурах?***

— Я не могу засвидетельствовать каких-либо существенных отличий в позиции США и европейских структур в отношении Беларуси. Тому подтверждением могут служить недавние заявления, которые сделали европейские государства. В них содержались те же самые условия, на которых Европа готова идти на сближение с Беларусью. Аналогичные были выдвинуты и Соединенными Штатами.

Полагаю, что это нормальное состояние, когда существуют множество разных мнений по поводу причин возникновения тех или иных ситуаций, путей разрешения проблем. Разнообразие мнений можно наблюдать и среди белорусских политиков. Что же касается политического курса в отношении Беларуси со стороны официальных кругов США и Европы, то он носит согласованный характер.

***— Тем не менее, некоторые дипломаты высказываются в том смысле, что, мол, американцы хотят советскими методами установить в Беларуси демократию. Как Вы относитесь к таким высказываниям?***

— Это смешно. В принципе, такие заявления не заслуживали бы ответа, если бы они не давали мне возможность ответить тем нашим критикам, которые заявляют о том, что США вмешиваются во внутренние дела Беларуси. При этом мне как-то становится не по себе, поскольку я знаю, как мало американцев живет и работает в Беларуси. С белорусскими собеседниками мы постоянно подчеркиваем, что у международного сообщества существуют определенные принципы взаимоотношений. И если существует желание войти в эту семью, то надо соблюдать установленные правила. В противном случае не следует ожидать к себе отношения, которое существует к другим демократическим государствам. Советую поначаще обращать внимание на те заявления, которые делают европейские государства. Они по сути и даже по форме очень будут напоминать те заявления, которые делали США.

Я думаю, что слова о советских методах в установлении демократии лишь свидетельствуют об обескураженности, которая царит среди аккредитованных в Минске дипломатов по поводу отсутствия прогресса. Ответственность за его отсутствие ни в коем случае не получится возложить на дипломатическое сообщество здесь в Минске. Ибо политика делается и проводится руководством Беларуси. Очень смешно прозвучит и будет воспринято с юмором утверждение, что, предположим, посол США или посольство США в целом имеют в Беларуси какое-то невероятное влияние.

***— Следующая ступень Вашей карьеры будет как-то связана с Беларусью?***

— Я уезжаю работать в Брюссель. Моя новая должность будет называться помощник заместителя генерального секретаря NATO по политическим вопросам. Из тех международных чиновников, которые занимают эти должности, мне предстоит работать непосредственно под руководством лорда Робертсона. Одной из моих обязанностей будет поддержание связей с государствами-партнерами NATO. Так что, в какой-то степени, это будет затрагивать отношения Беларуси и России с NATO. Я также буду занят вопросами и расширения NATO, которые, как известно, являются щекотливыми для Беларуси. Полагаю, что на протяжении последующих нескольких лет мне предстоит встречаться, беседовать и с представителями Беларуси.

***— Что бы Вы могли посоветовать, пожелать своим коллегам, которые начинают работать в Беларуси?***

— Главные рекомендации, которые я дам своему преемнику, другим коллегам, которые будут сюда приезжать, будут заключаться в том, чтобы они как можно больше ездили в регионы, а не сидели только в Минске. И чтобы общались не только с представителями властей и оппозиции, но и с самым широким кругом других представителей общества. Это позволит избежать дипломатам зацикленности на узкий круг общения.

До того, как я приехал в Минск, в Вашингтоне преобладало мнение, что у белорусов отсутствует национальное самосознание. Сейчас это уже не стоит на повестке дня. Белорусы осознают себя как независимая нация. И очень важным фактором является то, что после моих встреч с молодыми людьми я почувствовал, что они осознают себя европейской нацией. В отличие от России, которая одной ногой стоит в Азии, а другой в Европе. Это то видение , которое мне импонирует и которое я хочу передать своим коллегам. И еще я посоветую им быть осторожней и не допустить, чтобы Беларусь завладела их сердцем. Потому что потом будет очень тяжело уезжать отсюда.

***— Благодарю Вас за ответы.***

**Интервью взял Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

## Міністр мецiць у прафсаюзнае крэсла

**Юрась ШЧАСНЫ**

Міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Юрый Мароз збіраецца змагацца за пасаду старшыні прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу на трэцім з'ездзе, які пройдзе ў Мінску 12 ліпеня.

Відавочна, што галоўная інтрыга на чарговым з'ездзе прафсаюза разверне́цца вакол асобы лідэра буйнейшага прафсаюза рэспублікі, які аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах мільён восемдзесят чатыры тысячы чалавек. Асноўная барацьба разгорнецца паміж Юрыем Марозам і цяперашнім старшынёй Аляксандрам Ярашуком, які ўзначальвае прафсаюз з красавіка мінулага года. Апошнія два з паловай месяцы перад з'ездам улады ўсяляк спрабавалі адмяніць рашэнне віцебскай арганізацыі прафсаюза, па якім А.Ярашук вылучаны дэлегатам на з'езд. Апошняй кропляй, якая, відаць, перапоўніла чашу цярпення ўладаў і прымусіла выставіць яму альтэрнатыву, стала падпісанне прафсаюзным лідэрам скаргі ў Міжнародную арганізацыю працы пра парушэнне правоў беларускіх прафсаюзаў. ■

## Змаганне за ўніверсітэт працягваецца

**Рыгор БУЯН**

Лідэры трох грамадскіх аб'яднанняў накіравалі кіраўніку прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаілу Мясніковічу і прэм'ер-міністру Уладзіміру Ярмошыну прапанову абмеркаваць у ліпені праблему адкрыцця Беларускага нацыянальнага універсітэта (БНУ).

З такой ініцыятывай выступілі старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Радзім Гарэцкі ды кіраўнік Таварыства беларускай школы Алесь Лозка. «Мы лічым, што Беларусь як мнoганацыянальная краіна, дзе карэнная нацыя складае выключную бальшыню ад усяго жыхарства — 81,7%, а 85,6% лічаць беларускую мову сваёй роднай (паводле вынікаў апошняга перапісу насельніцтва), мае права мець сваю нацыянальную (менавіта беларускамоўную!) сістэму адукацыі. Як Вам павінна быць вядома, на сёння наша краіна не мае аніводнай ВНУ, дзе ўсе дысцыпліны выкладаліся б па-беларуску», — гаворыцца ў лісце да М.Мясніковіча і У.Ярмошына.

На сённяшні дзень ініцыятыўная група па стварэнні БНУ ўжо сабрала каля 30 тысяч подпісаў у падтрымку стварэння цалкам беларускамоўнага універсітэта. Канцэпцыя БНУ распрацаваная вядучымі беларускімі навукоўцамі і апублікаваная ў друку для найшырэйшага абмеркавання; ужо гатовы і праект статута універсітэта. Не існуе аніякіх праблем і з выкладчыцкімі кадрамі: працаваць у БНУ далі згоду супрацоўнікі Нацыянальнай акадэміі навук, БДУ, БДПУ імя М.Танка, БДПА, іншых беларускіх ВНУ, а таксама вядомыя навукоўцы з замежжа (акадэмікі, дактары і кандыдаты навук, прафесары і дацэнты).

Карацей кажучы, для адкрыцця на Беларусі першага – і адзінага — беларускамоўнага універсітэта ўсё гатова. Не стае толькі санкцыяў уладаў. Таму і просяць кіраўнікі ТБМ, ТБШ і «Бацькаўшчыны» сустрэчы з кіраўніцтвам рэспублікі.

Праўда, калі цяперашні курс на вынішчэнне ўсяго беларускага будзе працягвацца, то яшчэ доўга беларусам прыйдзецца чакаць адкрыцця нацыянальнай ВНУ. А пакуль ТБМ змагаецца за адкрыццё БНУ на вуліцы. 27 ліпеня, у 10-ю гадавіну прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, ТБМ плануе правесці ў Міхайлаўскім скверы Мінска з 17.00 да 19.00 пікет у падтрымку беларускай мовы і за адкрыццё універсітэта. ■

## Міліцыя перашкаджала набажэнству

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

7 ліпеня на дзень Яна Хрысціцеля міліцыя затрымала на паўгадзіны набажэнства ў царкве ў пасёлку Пагранічны, якая знаходзіцца у вайсковай палатцы.

З Бераставіцы ў гэты дзень прыехалі дзве міліцэйскія машыны, а таксама прыбыў прадстаўнік райвыканкама. Быў складзены пратакол. Святар—Іван Спасюк адмовіўся яго чытаць і падпісваць. Мэтай міліцыі было перашкодзіць набажэнству, паколькі ўлады не дазваляюць існаваць у Пагранічным прыхода Беларускай народнай аўтакефальнай царквы. Інцыдэнт закончыўся пасля таго, як святар са словамі «адыдзіце, анатхрысты» апырскаў міліцыянтаў святой вадою. Яны, праўда, забралі ў яго дакументы на асабістую машыну, але ўвечары вярнулі іх, папрасіўшы прабачэння. ■

## Саюз палякаў застаўся без старшыні

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

З 6 ліпеня Тадэвуш Гавін добраахвотна пакінуў пасаду старшыні грамадскага аб'яднання «Саюз палякаў Беларусі».

Напярэдадні па яго просьбе была скліканая Рада СПБ, сябрам якой ён патлумачыў сваю адстаўку нездавальняючым станам здароўя. Паўнамоцтвы 49-гадовага Т.Гавіна закончыліся б толькі ўвесну наступнага года. На пасаду старшыні ён абіраўся максімальную колькасць—два разы. Часова выконваць абавязкі старшыні Саюза будзе намеснік—Тадэвуш Малевіч. Выбары старшыні адбудуцца на наступным з'ездзе СПБ, які будзе скліканы хутчэй за ўсё ў канцы гэтага года.

Т.Гавін застаецца сябрам Рады і Галоўнай управы СПБ, аднак больш не будзе мець ніякай штатнай пасады. Тры наступныя месяцы ён мяркуе адпачываць і падрыхтаваць да друку сваю новую кнігу, у якой раскажа аб сваёй дзейнасці, а таксама аб сустрэчах і дачыненнях з чыноўнікамі і палітыкамі—беларускімі і польскімі. Былы старшыня СПБ будзе таксама па-ранейшаму ўдзельнічаць у Каардынацыйным камітэце грамадскіх арганізацыяў «Гродзенская ініцыятыва». ■

# Найперш, незалежнасць

## Інтэрв'ю Васіля Быкава карэспандэнтамі польскай *Gazety Wyborczej* Войцэхам Мазярскім і Вольгай Гардзейчык

*Заканчэнне. Пачатак у нумары за 7 ліпеня*

***— Ваш песімізм вынікае з новай кнігі апавяданняў «Сцяна», пераклад якой на польскую мову зараз выйшаў у свет. Ці сапраўды Вы лічыце, што беларусаў чакае такая шэрая будучыня? Ці можа Вы хочаце папярэдзіць і мабілізаваць землякоў?***

— Песімізм — гэта іманентны стан беларускага этнасу. Напраўду наш народ яшчэ існуе, але з часоў упадку Вялікага Княства Літоўскага ў нашай гісторыі не адбылося нічога, што давала б падставу для аптымістычнай надзеі на будучыню. Было толькі горш і горш.

Вам таксама не было надта добра, але ў XX стагоддзі Польшча захавала наймениш фармальную незалежнасць, дзякуючы чаму цяпер можа будаваць суверэнны быт. Мы не мелі такога шчасця, хоць пачыналі паўстанні і прымалі такія спробы, як абвяшчэнне ў 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі. Да гэтага часу мы не можам дасягнуць незалежнасці, і гэта ёсць прычынай майго асабістага песімізму.

***— Мы вярнуліся з Мінска, які адметна нас уразіў. Згодныя з Вамі, стан цяжкі, беларуская культура і ўсякая незалежная думка душацца, але, нам здаецца, што ідзе працэс фармавання новага беларускага самаазначэння. Нягледзячы на пераследы, выходзяць газеты і часопісы, моладзь прыходзіць на канцэрты беларускіх рок-гуртоў, адбываюцца патрыятычныя дэманстрацыі. Адзін з нашых суразмоўцаў звярнуў увагу: усё тое, што мае якую-небудзь вартасць у мінскім культурным і інтэлектуальным жыцці, робіцца на беларускай мове. Руская мова – гэта мова афіцыйнай прапаганды і эстраднай поп-культуры. Гэта сведчыць, што ў беларускай культуры дрэмле патэнцыял, які ў будучыні стане яўным. Працэс можа цягнуцца дастаткова доўга, але гэта нармальны накірунак.***

— З гэтым «добрым накірункам» мы ўжо не раз сутыкаліся. Кожны з гэтых нашых «добрых кірункаў» скончыўся катастрофай, з якіх апошняя была самая балючая. Мы афіцыйна дэкларавалі існаванне суверэннай краіны Рэспублікі Беларусь. Гэтая дзяржава мела ўрад і розныя інстытуцыі – сцяг, герб, дзяржаўную мову і іншыя атрыбуты незалежнасці. І гэта быў той самы «добры кірунак». І ўсё гэта раптам знікла. Не ў выніку франтальнага сутыкнення з якім-небудзь знешнім ворагам, а з-за здрады кіруючых элітаў, якія адвярнуліся ад сваёй дзяржаўнасці і пачалі праводзіць палітыку яе знішчэння.

***— Можа, гэтая суверэннасць была скроеная «на вырост»? Цэнтр імперыі знаходзіўся ў Маскве, а не ў Мінску. Беларусь апынулася ў сітуацыі калоніі, якая знянацку атрымала незалежнасць і якую яшчэ не змагла ўсвядоміць. Сацыялагічныя даследаванні паказваюць, якія сапраўдныя прапорцыі сілаў у беларускім грамадстве. І на самой справе зараз дасяваюць і кансалідуюцца сілы, якія стануць фундаментам будучай незалежнасці. Той сапраўднай, заваяванай сваімі сіламі.***

— Магчыма. Найвялікшы парадокс — тое, што пра распад Саюза было вырашана менавіта на тэрыторыі Беларусі, у Белавежскай пушчы. Сапраўды, гэта адбылося так неспадзявана, што ні ў Беларусі, ні ва Украіне, ні нават у Расіі ніхто не быў да гэтага падрыхтаваны. Гатовыя да пабудовы суверэнных дзяржаваў былі толькі краіны Балтыі і некаторыя ўсходнія рэспублікі. Насельніцтва Беларусі засталося цалкам залежным ад развіцця выпадкаў, у той час як бальшавіцкі істэблішмент зрэагаваў варожа на самую думку ўтварэння незалежнай дзяржавы. Ужо ў час стварэння Рэспублікі Беларусь стары апарат, які да гэтага часу кіруе ў Мінску, пачаў сабатаваць і байкатаваць новую дзяржаву. Непадрыхтаванае грамадства не здолела працівіцца, і ў выніку маем тое, што маем,– поўную катастрофу.

***— Але ж гэтая катастрофа не бясконцая. Беларусы проста прайгралі бітву, да якой не былі падрыхтаваныя. Зараз рыхтуюцца і збіраюць сілы. У 1990 годзе ў адным з інтэрв'ю Вы сказалі так: «Кожнае грамадства мусіць прайсці вызначаную лёсам дарогу да дэмакратыі, не ўдасца пераскочыць ніводнага з этапаў». Адкуль узяўся ваш цяперашні песімізм?***

— Тады я быў перакананы, што гэты, на самой справе доўгі працэс, будзе аднак развівацца і паступова прыносіць плён. Што будзе ўзрастаючая лінія. Не прадугледжваў гвалтоўнага рэгрэсу. Прашу памятаць, што гэта я сказаў яшчэ перад маскоўскім путчам у 1991 годзе і перад распадам СССР. Лічыў тады, што трэба ўсё рабіць паступова, нічога радыкальнага, каб не выклікаць рэакцыі з боку абаронцаў імперыі. Аказалася ж, што поспеху дасягнулі тыя, хто хутка і адразу вырваліся на волю, як літоўцы. Народы, якія пастанілі на паступовую і мяккую трансфармацыю, спыніліся на паўдарозе. Гэта датычыцца не толькі Беларусі і Украіны, а таксама і Расіі, якая топчыцца на месцы, і зусім невядома, ці ўдасца ёй пабудаваць дэмакратычную сістэму.

***— У публіцыстычным тэксце 1988 года Вы, спадар Васіль, пісалі: «Найбольш небяспечны наш вораг той, каго нарадзіла нашая мінуўшчына і які трымаецца ў нас саміх». На колькі сённяшняя дыктатура на Беларусі створаная праз таго ўнутранага ворага, які дрэміць у душах грамадзян?***

— У пэўным сэнсе дыктатура — вынік працы ўнутранага ворага. А таксама вынік не да канца сфармаванай самасвядомасці беларусаў. У гэтай частцы Еўропы гісторыя праходзіла гэтакім чынам, што беларусы не мелі выпадку ўзмацнець як народ. Шэраг пакаленняў выхоўвалася ў чужым атачэнні, у чужых асяродках культуры, не ў сваёй дзяржаве. Таму цяжка дзівіцца, што людзі, выхаваныя ў такіх варунках з такой недастатковай нацыянальнай свядомасцю, аказаліся не ў стане стварыць дастатковую палітычную базу для дзеячаў, якія прадстаўлялі беларускі рух за дэмакратыю і незалежнасць.


Фота IREX/ProMedia

***— Часам можна сустрэцца з меркаваннем, што Беларускі Народны Фронт, ачолены Зянонам Пазьняком, не навярнуў да сябе людзей сваёй непахіснай скіраванасцю на беларускую дэмакратычную ідэю. Што такім чынам ён адарваўся ад народа. Гэтую няслушную і несправядлівую думку фармулююць не толькі праціўнікі Беларусі – часам яго можна пачуць і ў дэмакратычным лагеры.***

— А між тым, менавіта дзякуючы толькі гэтакай палітыцы прапаганды беларускасці частка грамадства абудзілася і зразумела, што можа чэрпаць ідэі і патрабаванні з таго, што ёсць беларусамі. Сёння 10% нашага грамадства – свядомыя беларусы. У іншых абставінах гэтыя 10% былі б ферментам росту. Калі б мы жылі ў суверэннай і дэмакратычнай дзяржаве, колькасць свядомых беларусаў радыкальна ўзрасла б і магчыма, што працэс фармавання свядомага беларускага народа хутка б узрастаў. Але паколькі мы страцілі дзяржаву, то да тых 10% не далучылі наступныя групы.

***— Нам здаецца, што нават у цяперашніх неспрыяльных варунках гэтыя 10% уплываюць на іншых, у прыватнасці, на маладзёжнае асяроддзе. Памятаеце, спадар Васіль, фільмы, знятыя на дэманстрацыях у Мінску? Бачныя там найбольш твары студэнтаў і навучэнцаў, падлеткаў, якія ў дарослае жыццё ўжо кроцаць як беларусы, арыентаваныя на Еўропу.***

— Можа з боку відаць лепш. Вельмі хацелася б, каб вы мелі рацыю. Можа гэта таксама прыкмета веку – вы маладыя і таму маеце болей схільнасці да аптымістычнага погляду на рэчаіснасць.

***— Калі ўлады заблакавалі друк Вашай апошняй кнігі, самі чытачы арганізаваліся, сабралі грошы і дзякуючы гэтаму кніга была выдадзеная. Іншымі словамі — беларускія чытачы паказалі, што ім вельмі важна, каб беларуская кніга друкавалася. Ці не схіляе гэта Вас, спадар Васіль, да больш аптымістычнага погляду на стан духу свайго народа?***

— Гэта выключны выпадак, які не дае падставы для абагульненняў пра сітуацыю з беларускім кнігавыданнем. Беларуская літаратура сёння ў стане катастрафічнага заняпаду. Не з прычыны браку таленавітых аўтараў і добрых тэкстаў, колькі ў выніку палітыкі ўладаў, скіраванай на выцісканне беларускай мовы з жыцця грамадства і замены яе моваю расійскай. Ці можна сабе ўявіць большую катастрофу для нацыянальнай культуры? Уплыў гэтай трагедыі перабольшвае памеры чарнобыльскай бяды, бо наступствы Чарнобыля закранулі адну пятую тэрыторыі Беларусі, а моўная палітыка рэжыму ахоплівае тэрыторыю ўсёй краіны.

Высілкі незалежных выдаўцоў і суполак грамадзянаў ніяк не ў стане змяніць гэтай сітуацыі. У 80-х гадах шэсць тамоў маіх твораў выйшлі накладам 76 тысяч асобнікаў. Такімі тыражамі друкавалася тады беларуская кніга. Між тым, як выдадзеная дзякуючы чытацкай перадаплаце «Сцяна», з'явілася ў 1988 годзе тыражом 750 асобнікаў.

***— Але гэта немагчыма параўноўваць. У СССР дзяржава датавала кнігі, а «Сцяна» выдадзеная без ніякіх датацыяў дзякуючы грамадскай ініцыятыве. У Польшчы таксама кніжныя наклады зараз значна меншыя, чым у часы ПНР.***

— Гэта праўда, датацыі скончыліся. Людзі зараз мусяць змагацца з цяжкасцямі жыцця пры перманентным эканамічным крызісе і наогул перасталі купляць кнігі. Гэта толькі паглыбляе заняпад выдавецкага рынку.

***— Ці могуць прыхільнікі беларускай дэмакратычнай ідэі разлічваць на прыязнасць і дапамогу з боку дэмакратычных сілаў Расіі? Ведаем, што ў 1994 годзе Вы атрымалі ад прэзідэнта Барыса Ельцына Ордэн Дружбы – і беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка аж тры гады не дапускаў уручэння Вам гэтай адзнакі.***

— Шмат гадоў я меў добрыя кантакты з дэмакратычнымі коламі расійскай інтэлігенцыі, супрацоўнічаў з маскоўскай прэсай. Падтрымліваў расійскіх дэмакратаў і чуў ад іх, што я таксама магу разлічваць на іхнюю падтрымку. Уласна, гэта мае тагачасныя прыяцелі і саюзнікі былі ініцыятарамі адзнакі мяне тым ордэнам.

***— Аднак гады два-тры таму, калі я пачаў публічна крытыкаваць Лукашэнку, беларускія ўлады распачалі кампанію прапаганды з мэтай скампраметаваць мяне ў вачах свету і Масквы. Лукашэнка асабіста заявіў, што Быкаў — ашалелы нацыяналіст, які дамагаецца ад Расіі вяртання Смаленшчыны, ад Польшчы — Беласточчыны. Паведаміў гэта непасрэдна пасля таго, як у 1995 годзе ў Мінску паўстаў з маёй ініцыятывы Беларускі Хельсінкскі Камітэт для пільнай увагі за парушэннямі правоў чалавека.***

— Са здзіўленнем я канстатаваў, што гэтая кампанія абсурднага ачарнення дала ў Расіі плён. Многа маіх ранейшых прыяцеляў перасталі са мной размаўляць, убачыўшы ва мне такога ворага, які жадае падзелу расійскай дзяржавы. Паверылі Лукашэнку, а не мне.

***— Афіцыйная прапаганда беларускіх уладаў намагаецца таксама ачарніць Вас у вачах беларускай грамадскай думкі.***

— Калі я вярнуўся ў Мінск пасля паўтарагадовага побыту ў Хельсінкі, дык ужо праз два дні па прыездзе ў сродках масавай інфармацыі з'явілася мноства матэрыялаў, якія выкрывалі мяне як ворага народа, а ў дадатак і як кепскага пісьменніка.

Пачаў думаць, што і мяне можа напаткаць такі самы лёс, які напаткаў некаторых нашых дэпутатаў і былых міністраў – якія таямніча зніклі ці трапілі ў вязніцы за абвешчаныя ім крымінальныя злачынствы. Тады я вырашыў выехаць у Германію і сваёй прысутнасцю не псаваць настрой нашаму дыктатару. Відавочна, такім чынам падараваў сабе колькі месяцаў спакойнага жыцця.

***— Спадар Васіль, Вы толькі пісьменнік ці таксама і палітык?***

— Ніколі не быў палітыкам і ніколі не хацеў ім быць. Заўсёды хацеў захаваць асабістую незалежнасць і таму ніколі не ўступаў у камуністычную партыю. Памятаю, што ў часы СССР мае прыяцелі, якія былі ў партыі і ўдарыліся ў дысідэнцкую дзейнасць, пераследаваліся – іх выкідалі з партыі, здымалі з кіруючых пасадаў, пазбаўлялі працы. А мне ніхто нічога зрабіць не мог. Кіруючых пастоў я не займаў, да партыі не належаў – не было адкуль мяне выкінуць. Меў спакой і ўнутры адчуваў сябе вольным.

Але ў 80-х гадах абралі мяне – уласна кажучы, выслалі – у Вярхоўны Савет СССР. Ніхто мяне не спытаў, ці хачу быць дэпутатам. Стаў ім, але стараўся нічога не рабіць і пры кожным зручным выпадку выкручваўся ад удзелу ў паседжаннях. Калі распалася імперыя і паўстала незалежная Беларусь, палічыў сваім абавязкам далучыцца да стварэння Народнага Фронту. Так мне падказвала сумленне. Выступаў супраць дыктатуры, найперш камуністычнай, а потым — лукашэнкаўскай. Лукашэнку крытыкаваў яшчэ ў той час, калі ён толькі прэтэндаваў на крэсла прэзідэнта.

***— 12 гадоў я пражыла ў Мінску ў асяроддзі людзей, якія размаўляюць толькі па-беларуску. Цяпер маю ўжо дзяцей, якія вынесуць з дому знаёмства з беларускай моваю, моваю айчыны. Якая будучыня Айчыну чакае?***

— У жыцці кожнага народа найважнейшае ёсць суверэнная дзяржава. Толькі яна дазваляе вырашаць праблемы. Калі будзем мець незалежную Беларусь, будзем мець умовы і для культурнага, нацыянальнага, эканамічнага, любога іншага развіцця. Калі ж такой дзяржавы не будзе, калі Беларусь стане адной з правінцыяў расійскай імперыі – дык хутка нічога не застанецца, беларуская культура знікне з паверхні Зямлі. ■

# Наркоманами не рождаются – наркоманами умирают

Наталья РАДИНА,
Иван ГОНКУР

**Страны, которые в силу географического положения используются для транзита наркотиков, со временем неизбежно становятся территориями их непосредственного сбыта и потребления. Такое развитие событий уготовано и Беларуси.**

Уже сейчас в нашей стране официально зарегистрировано свыше 6.000 наркоманов. Но для получения реальной картины эту цифру надо умножить в 20 раз. Ежегодно (вновь же только по официальным данным) количество наркоманов увеличивается на 1.500 человек.

Из-за бедности населения Беларусь для крупных наркодельцов является пока малопривлекательной. На белорусском наркорынке импорт составляет 50% от всего количества наркотиков. Вторая половина – местные ресурсы конопли и опийного мака. В Чернобыльской зоне в летнюю пору милиция обнаруживает немало нелегальных посадок этих культур небольшими делянками (4-6 соток).



Красные розы любви лучше красного мака печали

## Наркотический пояс

В СССР внутренний рынок опиума стал складываться с середины 50-х годов. Тогда появились плантации в Самарской и Нижегородской областях, в Татарстане, не говоря уже о республиках Средней Азии. В 60-х годах были созданы огромные плантации конопли в Краснодарском и Ставропольском краях, в Украине. Они составили наркотический пояс.

С проблемой опиумной зависимости первыми столкнулись территории, примыкающие к этому поясу. К середине 70-х в части регионов страны наркомания была уже привычным явлением. Но настоящий наркопоток хлынул к нам в конце 80-х, двадцать лет спустя после овладения рынками западных стран. Подпольные химики отлично поработали в Ленинграде, синтезировав «винт» – кустарный первитин. А из Санкт-Петербурга он – так называемая «питерская кислота» – стал расходиться по всей стране. Курьеры привозили ЛСД и «экстази» из Голландии и Польши.

Такое «отставание» от стран Запада объясняется не только существованием «железного занавеса», защищавшего советских людей от остального мира, но и тотальной алкоголизацией страны.

Но, возможно, длившаяся десятки лет алкоголизация общества и создала почву для наркомании. Сейчас прежние «питейные традиции» просто получают другие формы. Сегодня подростки, с детства видевшие пьянство родителей, заявляют: «У вас свой кайф, у нас свой!» По силе воздействия героин, который сейчас особенно популярен, не сопоставим с алкоголем. Подростки начинают с пива, вина, джин-тоника, но очень быстро некоторые переходят на наркотики.

## Какой он, «их кайф»?

Наркотики можно поделить на три основные группы. Собственно **наркотики**, имеющие болеутоляющее, успокаивающее действие, — опиатная группа: морфий, героин, методон. Именно опиаты вызывают самую тяжелую форму зависимости.

Следующая группа – **стимуляторы**, прежде всего кокаин, «экстази» и «крэк». От них тоже возникает зависимость, но совсем другого рода, связанная с психическими расстройствами при длительном злоупотреблении.

Третья группа – **психоделики, или галлюциногены**. Это в первую очередь ЛСД, ДМТ и марихуана. Конопля как галлюциноген тоже не стоит на последнем месте.

Употребление шприца для инъекций открыло следующий этап в новейшей истории наркотиков. Действие веществ, попадавших прямо в кровь, усиливалось в несколько раз. Сегодня наркоманию в первую очередь связывают с инъекциями, хотя наркотики и едят, и пьют, и курят, и нюхают. Марихуана готовит почву для героина. После «травки» начинается «поиск»: ЛСД, кокаин... На какой-то стадии еще боятся шприца, потом этот барьер преодолевается – человек начинает «колоться».

## «На дербан!»

Примерно 80% белорусских наркоманов часть наркотиков стараются добывать самостоятельно. Многие из молодых людей, толпящихся в конце лета и в начале осени по будням на вокзалах, едут вовсе не на пикники. Они отправляются «на дербан» – собирать по загородным дачам маковые и конопляные урожаи. Некоторые выращивают это зелье на балконах по специальным технологиям сами. Сделать наркотик из собранного растительного сырья несложно – рецептом поделится любой наркоман. Есть и настоящие энциклопедии – например, «Поваренная книга наркомана». В ней описываются не только технологии выращивания «травы», но и так называемые наркокулинарные рецепты (пирожки с гашишем, каша из конопли).

Купить наркотики не трудно. Особенно в городах, где у каждого «торчащего» есть постоянные «точки». В Минске их по несколько в каждом районе. Наиболее активно торгуют наркотиками в Серебрянке, Чижовке, в частных секторах, где живут цыгане, на дискотеках и в местах «тусовок» молодёжи, например, возле «Макдональдса» на проспекте Ф.Скорины. Иногда милиция совершает облавы на эти «точки», и они на время закрываются. Вот в этот период и ведётся реальный подсчёт наркоманов, когда они, не выдерживая «ломок», добровольно обращаются за спасительной «дозой» в наркодиспансер.

Может возникнуть вопрос: почему при том, что милиция имеет информацию практически обо всех местах продажи наркотиков, те все равно продолжают действовать? Авторы этого материала несколько раз обращались в Управление нравственности и борьбы с незаконным оборотом наркотиков МВД с просьбой рассказать о своей деятельности, и в том числе о ситуации с закрытием «точек», но работники управления упорно от беседы отказывались. Не исключено, что многие «точки» просто-напросто делятся каким-то процентом от выручки с теми, кто может «точку» закрыть.

Хотя наркоторговцев сложно отследить и взять с поличным. Во-первых, они работают обычно с постоянными и проверенными клиентами-наркоманами, а во-вторых, сама процедура сделки обставляется конспиративно: о встрече уславливаются через пейджер, перемещаются на автомобиле и т. д.

## Почем drug-товар?

Стоит иметь представление, сколько денег тратит на приобретение наркотиков белорусская молодёжь (то есть 20% юношей и девушек в возрасте от 15 до 25 лет, не менее 100 тысяч человек). Стакан маковой соломки отдают за 5 долларов. Спичечный коробок «травы» стоит 10-15 долларов, столько же — лепёшечный грамм из конопляной пыльцы.

Грамм героина оценивается примерно в 100 долларов. Продаётся он и подешевле (от 40 долларов), но это так называемый «бодяжный», с примесями соды или димедрола. В этом случае в несколько раз увеличивается риск для жизни наркомана от передозировки. В прошлом году от такого героина в Беларуси умерло 23 человека. О негативном воздействии героина на организм свидетельствует то, что даже при однократном его введении в кровь женщины теряют способность к деторождению.

Таблетка синтетического наркотика, например, ЛСД стоит 7-10 долларов, а грамм кокаина, считающегося наркотиком элитарным, стоит порядка 200 долларов. Но из-за дороговизны в Беларуси он не распространён.

Подросткам, получающим деньги от родителей только на карманные расходы, малодоступен любой наркотик. Отсюда — токсикомания. Нюхается что попало – аэрозоли и средства бытовой химии. Нередко случаются смерти от сердечной недостаточности и удушья. Из-за нищеты придумали и такой способ: в бутылку пива впрыскивается капля дихлофоса. Пару месяцев употребления такого напитка приводит к развитию слабоумия. К этому же приводит глотание снотворных и прочих таблеток.

## «Слабо?»

Практически все подростки-наркоманы попробовали наркотики в компании сверстников. Мотив – любопытство и желание доказать, что «и мне не слабо». Некоторые психологи считают, что не надо льстить себя надеждой, что подростки пробуют наркотики потому, что не знают об их опасности. Наоборот, именно потому, что это опасно! И если бы не было наркотиков, они рисковали бы как-то иначе: прыгали бы с моста, с крыши или еще что-нибудь в этом роде.Тут есть риск сломать ногу и проходить в гипсе. Но риск «колоться» героином грозит худшими последствиями. Медики выделяют несколько стадий наркозависимости. Первая – психическая, когда у начинающего наркомана в голове «заводятся тараканы» (навязчивые мысли об «уколе»). Он мало спит, практически не ест. Постепенно начинает увеличивать очередную «дозу» в несколько раз, поскольку к первоначальной у организма вырабатывается привыкание, и он требует еще и еще...

На второй стадии наркоман вводит наркотик ежедневно по несколько раз, иначе утро уже не утро, а ночь – не ночь... Доза увеличивается в 100, 200, 300 раз. К концу второй стадии наркоман не ест, совсем не спит. Глаза тускнеют, глубоко западают, кожа приобретает землистый оттенок. 30-летний наркоман выглядит на 60. У него выпадают волосы. Вместо вен под кожей – плотные темные жгуты.

На третьей стадии наркотическое опьянение полностью изчезает. «Кайфа» наркотик уже не дает. И наркоман умирает от сердечно-сосудистых заболеваний, от обострившихся болезней, от передозировки, от СПИДа...

Жизнь прожита. ■

Літаратура НАШАЙ СВАБОДЫ

# Свой сярод чужых, чужы сярод сваіх

Леанід ГАЛУБОВІЧ

**Ёсць аўтары, якія заўжды імкнуцца быць на слыху і заўсёды – пад сонцам. А ёсць творцы патаемныя, што хаваюць усё сваё асабістае ў цень, як найдалей ад людскога вока. Мы ведаем пра іх толькі тое, што яны пішуць...**



Вось і пра яго я ведаю мала, а чуў шмат супярэчлівага. «Чужыя» казалі, што ён «наш», а «нашы» – наадварот – адсылалі яго назад, да «сваіх»... Таму ён быў не з тымі і не з гэтымі, а – недзе пасярод, сам па сабе, як і належыць мастаку своеасабліваму.

Іван Пташнікаў. 67 гадоў. Родам з-пад Плешчаніц. Сябра СБП з 1959 года. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я.Коласа. Доўгі час узначальваў аддзел прозы часопіса «Полымя». «Чалавек у футарале», схільны да ідэяў славянафільства. Даў толькі адно інтэрв'ю за ўвесь час літаратурнай працы. Аўтар шматлікіх кніжак прозы. Найлепшы сучасны навеліст. Творы пісьменніка перакладаліся на многія замежныя мовы, у тым ліку – на англійскую, венгерскую, латышскую, нямецкую, польскую, славацкую, французскую, чэшскую ды эстонскую...

У пятым томе шасцітомнага біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» на Івана Пташнікава дзяржава «патраціла» ўсяго чатыры старонкі даведачнага тэксту, тады як на папярэдняга яму таварыша, згодна з алфавітным парадкам, члена таго ж СБП Пятра Прыходзьку – ажно дванаццаць... Адчуваеце розніцу?!

Што ж, для поўнага адчування – колькі словаў пра Пташнікава, навеліста і чалавека. Зрэшты, адразу – пра «Алімпіяду». Не, не тую, хуткачаканую, сіднейскую, пра якую ўжо колькі гадоў запар «баліць» сэрца ў нашага зімовага і летняга, алімпійскага і неалімпійскага прэзідэнта, а пра аднайменны раман Івана Мікалаевіча, які мне давялося чытаць ажно ў 1984 годзе.

А праз якія гадоў пяць адбылася і наша першая сустрэча.

Яшчэ праз год клянчу ў яго «палымянскім» кабінеце згоду на тэлевізійныя здымкі да яго ж юбілею.

– Не гатоў я пакуль... Пачакаць трэба...

Мінулым годам тэлефаную яму дахаты, каб дамовіцца наконт гутаркі для часопіса «Крыніца».

– Гэтым часам нічога сказаць не магу... Мо калі пазней...

Адным словам, у адрозненне ад іншых літаратараў, пішучы, ён маўчаў, і паступова «вылазіў» са сваіх аб'ёмных заслоўленых тэкстаў, як удаў са скуры, – доўга і пакутліва, пакуль нарэшце не зразумеў сваю значнасць і знакавасць, а, бадай, і «алімпійскае» першынство ў гэтым найбольш чытэльным, але і самым цяжкім жанры сучаснай прозы.

«Эфка», «Львы», «Арчыбал», «Французжанкі», «Тры пуды жыта», «Пагоня» – гэта не зусім поўны пералік яго класічна-хрэстаматыйных навелаў апошняга часу. Менш за адну публікацыю на год. Такое могуць дазволіць толькі тыя майстры, якія ведаюць сабе цану.

«Калі гэта не мастацтва, то я не паэт», – часта аргументуе адзін мой калега, і я не мог бы не пагадзіцца з ім, каб тое тычылася малой прозы Івана Пташнікава. Вядома, у людзей розныя густы, але ж не настолькі, каб адныя смяяліся ў тым храме, дзе іншыя плачуць...

І ўвогуле, пакуль я за дзесяць гадоў народных шэсцяў стаптаў не менш дзесяці пар добротнага абутку, Пташнікаў за пісьмовым сталом «схадзіў» сваё чуйнае сэрца наўкол душы сваёй – выпакутаваў, выплакаў і вышаптаў – начарна і начыста – малітву за народ свой і зямлю яго...

Уся трагедыя сённяшняга беларускага чалавека выпісана ім, бы крывёю, у самым апошнім яго па часе публікацыі апавяданні «Пагоня» («ЛіМ», № 27, 1999 г.). І ўжо ж трэба было яму так апісаць тую Пагоню, не раўнуючы як агонію сучаснага беларускага грамадства, з такім талентам і майстэрствам, каб яна ўрэшце была прызнаная нават прэзідэнцкай «Беларускай думкай». Нечуваная рэч! Няхай, як кажуць, Пташнікаў там і «свой», але ж, браткі, – рэч тая то ўся нашая...

Коратка пра сюжэт. Лось-Адзінец – ці не ёсць ён праобразам самога аўтара? – уцякае ад ваўкоў. Напрадвесні, марознай ноччу, па глыбокім снезе. Каля чалавечага жытла шукаць ратунку баіцца, бо тры гады таму людзі звялі са свету яго самку і малое цялё. Дарэчы, і ваўчыную сям'ю яны таксама не пашкадавалі. У рэшце рэшт, ваўкі лася даганяюць. Скон яго страшны. Але, знюхаўшы крывавае баляванне, сюды збягаецца яшчэ адна галодная воўчая зграя. Пачынаецца жудасная бойня за лепшы кавалак. Ваўкі перагрызаюць адно аднаго. Паўжывым з усёй гэтай «варфаламееўскай начной вакханаліі» застаецца толькі адзін ваўчок-пераярак...

«Калі ён, сабраўшы сілы, адарваўся ад зямлі і зірнуў з-за куста на Пагурак пад старыя асіны, то ўбачыў чырвоную ад крыві паласу снегу і раскіданыя ўсюды косці... Па касцях скакалі вароны...»

Вось – сімвалічны абрыс нашага нацыянальнага палотнішча на полі змагання за сваю самасць.

Цікава толькі, куды пасля ўсяго, што адбылося на яго вачах, падасца наш напаўжывы ваўчок – няўжо і ён, гнаны страхам, пакіне родны абшар?!

Ды і Вы, у рэшце рэшт, Іван Мікалаевіч, – куды і з кім? Добра было б, каб – усе разам... хоць тыя, што засталіся... ■

# Льготы знішчальнікам беларускай даўніны

## Сёння для архітэктурнага помніка няма нічога больш страшнага, чым дзяржаўная ахова

Уладзімір ДЗЯНІСАЎ

**Пра тое, што помнікі старажытнай архітэктуры ў нас бязлітасна вынішчаюцца, ведаюць усе. Так было пры Саветах, так працягваецца і без іх. Аднак сёння гэта вынішчэнне пераведзенае на прагматычна-цынічную аснову.**





Помнік архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінска XIX стагоддзя. Выгляд да пачатку «захавання і рэстаўрацыі». Пачатак 1990-х гадоў

На прыведзеных здымках можна прасачыць працэс руйнавання комплексу будынкаў пад № 9/16 на рагу вул. Камсамольскай і Рэвалюцыйнай, прынятых пад дзяржаўную ахову. Гэты помнік архітэктуры і горадабудаўніцтва быў прыняты пад ахову яшчэ пастановай Савета міністраў БССР. Ён уключаны ў Дзяржаўны спіс помнікаў горадабудаўніцтва і архітэктуры Мінска, а ў фундаментальным «Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» яму прысвечаны асобны артыкул.

Сучасная вуліца Камсамольская, якая да паўстання 1863 г. мела назву Філіцыянаўская (у гонар св.Філіцыяна – каталіцкага патрона Мінска), сфарміравалася ўздоўж невялічкага прытока ракі Нямігі. Яго фрагменты існавалі яшчэ ў XIX ст. над назвай «Канава Суціна». З домам № 9/16 злучаная гісторыя шэрагу будынкаў. У канцы XVIII – пачатку XIX ст. тут былі ўзведзеныя драўляныя дамы с крамамі на каменным падмурку. У 1877 г. побач будуюцца невялікія каменныя крамы, а ў 1881 г. на рагу ўзводзяцца мураваныя гандлёвыя рады. Комплекс будаваўся майстрамі, якія яшчэ трымаліся традыцыяў Мінскага дойлідскага цэха XVII—XVIII стст. Таму будынкі набылі традыцыйныя формы, характэрныя для мінскай архітэктуры таго часу.

Пытанне пра неабходнасць рэстаўрацыі гэтага каштоўнага помніка архітэктуры было ўзнятае напачатку 1990-х гадоў. Тады пад кіраўніцтвам архітэктара-рэстаўратара С.Баголасава распрацоўваецца праект рэстаўрацыі, які прадугледжваў аднаўленне помніка ў яго першапачатковым выглядзе. Будынкі былі адселеныя, але на доўгі час засталіся без гаспадара. Нарэшце ў 1997 годзе гарадскія ўлады вырашылі выправіць становішча адпаведна духу часу: увесь комплекс помнікаў архітэктуры па вул.Камсамольскай ад Нямігі да Рэвалюцыйнай быў распрададзены прыватным фірмам. Гаспадаром дома №9/16 і часткі дома № 14 па вул.Рэвалюцыйнай стала замежная фірма «Голдэн Лак», якая, паводле заканадаўства аб ахове помнікаў, падпісала абавязацельствы, згодна з якімі прыняла на сябе адказнасць за захаванне помнікаў. У кастрычніку 1997 г. старшыня Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры міністэрстве культуры Д.Бубноўскі выдаў планава-рэстаўрацыйнае заданне на распрацоўку навукова-праектнай дакументацыі на ажыццяўленне рамонтна-рэстаўрацыйных работ на гэтым помніку. Паводле дакумента, праект павінна была выконваць вытворча-камерцыйнае прадпрыемства «Дор и К°», якое ўзначальвала архітэктар І.Дарахава. Дазвалялася толькі *«перапланіроўка ўнутранай прасторы, у сувязі з новым прыстасаваннем»*. Улічваючы, што помнік знаходзіўся ў нездавальняючым стане, патрабавалася распрацоўка дакументацыі на тэрміновыя супрацьаварыйныя работы, якія б гарантавалі захаванне аўтэнтычных канструкцыяў. Кіраўніком рэстаўрацыйных работ быў прызначаны архітэктар І.Русецкі.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Тое самае месца, што на верхніх здымках. Стары будынак знік, будуецца «архітэктурная карыкатура»

Але такі варыянт не адпавядаў планам фірмы «Голдэн Лак». І тады на арэне з'явілася яшчэ адна праектная ўстанова – «Творчая майстэрня архітэктара І.Жураўлёва». Уладальнікі будынкаў вырашылі змясціць у помніку **«кітайскі рэстаран».** Таму *«прыстасаванне дома 9/16 пад рэстаран згодна з заданнем загадчыка выклікала неабходнасць карэкціровак. Праектам прадугледжваецца стварэнне мансарднага паверха, што павялічвае вышыню даха на 1 метр. З боку двара да будынка прыбудоўваецца вестыбюль рэстарана і аванвестыбюля – агульнага для рэстарана і офіса»*. Пад усім помнікам планавалася стварыць вялізарныя сутарэнні, якіх ён ніколі не меў. Дзеля гэтага неабходна было знішчыць старыя муры і пабудаваць будынак нанава.

Такі праект цалкам перакрэсліваў ужо зацверджаны праект рэстаўрацыі помніка, аднак ён не сустрэў пярэчанняў з боку Камітэта па ахове спадчыны. 8 красавіка 1999 г. старшыня камітэта Д.Бубноўскі наклаў рэзалюцыяю: «Праект рэстаўрацыі будынка № 9/16 у Мінску разгледжаны і ўзгоднены».

Адначасова «Голдэн Лак» пачала ініцыіраваць пытанне аб зносе помніка, якое ў сваіх паперах называла цьмяна і сціпла – *«разрешение на производство работ по разборке элементов, подлежащих замене...»*. Дазвол на «разборку і замену» Камітэт па ахове спадчыны выдаў без усялякага вагання, выдатна разумеючы, што гэтыя словы азначаюць – знішчэнне, смерць помніка. Чаму ж выдаў на смерць? Хто ведае. Можа, як той казаў, за прыгожыя вочкі.

Гаспадары помніка прапанавалі цалкам разбурыць аўтэнтычны будынак XIX ст., а на месцы аднапавярховых гандлёвых радоў пабудаваць двухпавярховы будынак кітайскага рэстарана з сучаснымі падвальнымі памяшканнямі (плошчы новага збудавання павялічваліся амаль у 5 разоў).

Такі апетыт таксама быў задаволены Камітэтам па ахове спадчыны. 25 чэрвеня 1999 г. Д.Бубноўскі накіраваў фірме «Голдэн Лак» ліст: *«Праект усталявання 2-га этажа будынка XIX ст. 9/16 па вул.Камсамольскай у г.Мінску разгледжаны. Прынцыпова можна пагадзіцца з гэтай прапановай, але ж прадстаўлены праект патрабуе каардынальнай перапрацоўкі. Варыянты далейшых прапрацовак павінны быць прадстаўленыя ў Камітэт для прыняцця канчатковага рашэння»*. Не прайшло і двух тыдняў, як сп. Бубноўскі з дзіўнай аператыўнасцю прымае канчатковы прысуд: *«Карэкціроўка праекта рэстаўрацыі і прыстасавання будынка 9/16 па вул. Камсамольскай у г.Мінску разгледжана і ўзгоднена»*.

Гэты праект быў хутка ўзгоднены ў гарадскім камітэце па архітэктуры. Аднак там ён праходзіў ужо **як праект рэканструкцыі**. Фармулёўкі ў афіцыйных паперах даюць фірме «Голдэн Лак» правы на значныя падатковыя льготы на перыяд правядзення рамонтна-рэстаўрацыйных работ. Фірма можа карыстацца падатковымі льготамі і потым, таму што, **нягледзячы на фактычнае знішчэнне помніка, ён застаецца ў Дзяржаўным спісе помнікаў** горадабудаўніцтва і архітэктуры Мінска. Чаму? Здагадайцеся хто здольны!

Вядомы беларускі архітэктар, прэзідэнт Беларускай акадэміі архітэктуры, прафесар В.Аладаў у сувязі з гэтым выказаў абурэнне: «Меня крайне удивляет полная безграмотность подхода к так называемой «реставрации» этого здания... О сохранении памятника здесь нет и речи... Это будет карикатура на памятник архитектуры XIX в. Ни о какой его подлинности не может быть и упоминания».

Зразумела, што замежнай фірме «Голдэн Лак» напляваць на помнікі архітэктуры старога Мінска, бо яна не культурная ўстанова, яна зацікаўленая атрымаць максімальны прыбытак ад маёмасці. Была б магчымасць, дык на месцы помніка архітэктуры ўзнесла б хмарачос са шкла і бетону. Але для адстойвання інтарэсаў нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны існуюць дзяржаўныя органы аховы помнікаў. Яны абавязаныя кантраляваць гаспадароў і інвестараў, патрабаваць ад іх выканання заканадаўства аб ахове помнікаў гісторыі і культуры. Гэтак робіцца ва ўсіх цывілізаваных краінах. У нас Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны найбольш дбае пра інтарэсы новых багаценькіх гаспадароў помнікаў архітэктуры. Чаму? Таямніца акружае адказ на гэтае пытанне.

Дзівіць і беспрынцыповасць праекціроўшчыкаў, якія ў свой час спрабавалі займацца навукова-рэстаўрацыйнай практыкай, а сёння гатовыя на любы грэх перад культурай, каб дагадзіць заможным заказчыкам. Сорамна было чуць, як навуковы кіраўнік рэстаўрацыі помнікаў па вул.Камсамольскай І.Дарахава на паседжанні архітэктурнага савета абараняла інтарэсы фірмы «Голдэн Лак». Сапраўды: «Кліент заказвае музыку і словы».

Яшчэ адно дзіва нашай эпохі – сумяшчальніцтва злучаных пасадаў. Кіраўнік творчай майстэрні І.Жураўлёў аднача сна і намеснік начальніка глаўка міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, і ён жа член Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Камітэце па ахове, і ён жа член архітэктурна-горадабудаўнічага савета пры галоўным архітэктары Мінска. З гэтай прычыны ўсе ўзгадненні праектаў па фактычным знішчэнні помніка былі зробленыя без затрымак.

Вынікі гэтай гісторыі можа на свае вочы ўбачыць кожны – ад цікавага помніка архітэктуры Верхняга Горада літаральна не засталося ніводнай цагліны. Перастаў існаваць, бадай, адзін з самых маляўнічых старых мінскіх дворыкаў, які быў перакрыты мураванымі аркамі. Сёння яго можна ўбачыць толькі на малюнках мастакоў, якія многія гады прыходзілі сюды на эцюды. Зараз на месцы, дзе стаяў сапраўдны помнік архітэктуры, будуецца абсалютна новы па формах і матэрыялах, эклектычны па архітэктуры будынак. Ён парушае гістарычнае асяроддзе і цалкам скажае гістарычны характар гэтай часткі Верхняга Горада.

На чым жа трымаецца дзёрзкае самавольства мінскага чынавенства, які падмурак маюць цынічныя рэзалюцыі, што абвяшчаюць новабуды XXI стагоддзя помнікамі архітэктуры стагоддзя XVIII-XIX і льгатуюць іх утрыманне? Няўжо ўся лесвіца выканаўчай улады задаволеная гэтымі плямамі ганьбы на мінскай даўніне? ■



Праектны выгляд ствараемага «помніка архітэктуры XIX стагоддзя» пад кітайскі рэстаран



Другі варыянт выгляду таго ж самага «помніка»

 



СПОРТ

## Параза – звыклы вынік

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

І ў паўторнай гульні розыгрышу футбольнага еўрапейскага Кубка Інтэртато магілёўскі «Днепр-Трансмаш» пацярпеў паразу ад чэшскага клуба «Хмель» з Блшанаў. На гэты раз з лікам 0:2. Гульня, якая праходзіла на футбольным стадыёне горада Барысава (магілёўскі стадыён непрыдатны зараз да гульняў еўракубкаў), яшчэ раз пацвердзіла апошнія тэндэнцыі выступлення беларускіх клубаў у еўракубках. Параза становіцца для нас вынікам больш чым звыклым і чакаемым, а любы поспех успрымаецца як сенсацыя. Прыкладна гэткая ж сітуацыя ў футбольных клубаў з Фарэрскіх астравоў і Мальты. Там каманды заяўляюцца ў еўракубкі хутчэй дзеля прэстыжу, а не дзеля перамогаў, маўляў, мы краіны без вялікіх футбольных амбіцыяў і гуляем проста дзеля гульні. А для чаго заяўляюцца нашы, увесь час кажучы аб сваіх амбіцыях і планах, абсалютна незразумела. Можа ўжо час, спадарства, аднесці сябе, нарэшце, да краінаў трэцяга (а мо і чацвёртага) футбольнага свету. ■

## Уладзімір Валчкоў паставіў «Уімблдон» на вушы


Фота AP

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

**Сенсацыяй сусветнага маштабу ў свеце спорту стала выступленне мінчаніна Уладзіміра Валчкова на знакамітым тэнісным Уімблдонскім турніры.**

«Уімблдон», які праходзіць штогод на працягу двух чэрвеньскіх тыдняў на кортах аднайменнага англійскага гарадка, з'яўляецца самым прэстыжным тэнісным турнірам. Яго яшчэ называюць неафіцыйным чэмпіянатам свету (бо афіцыйнага проста няма). Перамога ў ім, незалежна ад далейшай кар'еры тэнісіста, назаўсёды пакідае тваё імя ў гісторыі тэніса. Да таго ж «Уімблдон» яшчэ і вельмі прыбыльнае мерапрыемства. Дзякуючы рэкламе і ўвазе тэлевізіёншчыкаў арганізатары штогод «наварваюць» на чэмпіянаце вялізныя грошы, нядрэнная частка якіх перападае і тэнісістам. Сёлета прызавы фонд турніру складаў 25 мільёнаў долараў ЗША.

Беларускія тэнісісты і раней, і ў апошнія гады нічым значным у самай прэстыжнай частцы спаборніцтваў – адзіночным разрадзе не вызначаліся. Былі толькі перамогі Наташы Зверавай у парным разрадзе некалькі гадоў таму. І вось сёлета не самы моцны па рэйтынгу беларускі тэнісіст Уладзімір Валчкоў (у Валодзі было месца толькі ў трэцяй сотні рэйтынгу) зрабіў сапраўдную сенсацыю – прайшоў да паўфіналу «Уімблдона». Сенсацыйнасць падзеі заключаецца ў тым, што Валчкоў стаў самым нізкарэйтынгавым тэнісістам за ўсю гісторыю, які прайшоў да той стадыі «Уімблдона», куды трапіць лічаць прэстыжным нават мацёрыя зоркі тэніса. Да таго ж сваё феноменальнае праходжанне па турнірнай сетцы Валчкоў пачаў з кваліфікацыйнага турніру! Адзіны, хто рабіў падобнае, быў вялікі тэнісіст Джон Макінрой, які пасля некалькіх гадоў запар узначальваў сусветны тэнісны рэйтынг. Пад Валчкова на турніры «трапілі» такія зоркі, як Уэйн Ферэйра з ПАР, Байран Блэк з Зімбабве, француз Сэдрык П'ялін (шостая «ракетка» свету!) і мараканец Аль Ануйі. Спыніў Валчкова толькі цяперашні лепшы тэнісіст свету Піт Сампрас з ЗША.

Што для самога Валчкова значыць гэта перамога, казаць думаецца не трэба. Валодзя, які пазыкамі збіраў грошы на квіток на самалёт у Англію, пазыкамі набыў сабе ракетку ды іншыя прылады, які гуляў у шортах і красоўках, таксама літаральна выпрашанымі ў іншых тэнісістаў з грашыма, сваёй гульнёй здабыў сабе 180.000 долараў. Гэта больш, чым ён зарабіў за ўсё сваё папярэдняе жыццё. Цяпер, думаецца, з вырашэннем пэўных фінансавых цяжкасцяў, Валчкоў зможа гуляць больш стабільна. Калі, канешне, не зашкодзіць зрабіць гэта старая траўма пляча Уладзіміра. З-за яе апошнія два гады ён знаходзіўся ў цяні і не атрымоўваў амаль ніякіх перамогаў.

Зараз Валчкоў трэніруецца ды плануе ўзяць удзел у міжнародным тэнісным турніры ў Брыстале (зноў Англія). Будзем чакаць ад Валчкова, які, праўда, дзякуючы свайму поспеху адразу перастаў быць нізкарэйтынгавым тэнісістам, новых гучных сенсацыяў. ■

# «Па маёй віне пацярпела шмат людзей»

Былы кіраўнік прававога ўпраўлення адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Пласкавіцкі адказвае на пытанні карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

***— Вось ужо амаль месяц як вы звольніліся з адміністрацыі і далі першае інтэрв'ю, у якім выказалі нязгоду з палітыкай Аляксандра Лукашэнкі. Што за гэты час змянілася ў вашым жыцці? Вы знайшлі новую працу?***

— Не, пакуль не працую.

***— Гэта тлумачыцца тым, што вам перашкаджаюць знайсці новае месца, помсцяць?***

— Мне асабіста не помсцяць, але вось маёй жонцы давялося звольніцца з фірмы, у якой яна працавала юрыстам. Інакш у іх маглі быць непрыемнасці.

***— Вы шэсць гадоў адпрацавалі на адказнай пасадзе ў адміністрацыі прэзідэнта, рыхтавалі дакументы, па якіх потым жыла краіна. Якімі з гэтых дакументаў вы ганарыцеся, а за якія, магчыма, вам сорамна?***

— Гэта немагчыма так падзяліць. Добра, дрэнна... Я быў галоўны пісарчук, рыхтаваў дакументы ды імкнуўся, каб яны былі выкананыя прафесійна. Але вы пытаецеся пра змест... Прызнаю: ва ўсіх гэтых дакументах прасочваецца адна і тая ж лінія, і я не магу сказаць, што калісьці памыляўся адносна сэнсу гэтай лініі. Уся дзяржаўная палітыка зводзіцца да простай рэчы – неяк яшчэ паднатужыцца, усіх паднатужыць, каб скокнуць вышэй галавы. Тое, што я гэта адпачатку ведаў і імкнуўся надаць адпаведным рашэнням логіку, робіць мяне безумоўна адказным за ўсё тое, што адбывалася. Абсалютна за ўсё. У тым ліку і па маёй віне пацярпела шмат людзей, як тыя ж прыватныя натарыусы, якіх мы фактычна зрабілі жабракамі.

***— Між тым, вы казалі ў ранейшых інтэрв'ю, што дагэтуль не лічыце тое рашэнне памылковым. Як гэта зразумець?***

— Рашэнне не было памылковым, але пасля яго, пасля адмены вядомага рашэння міністэрства юстыцыі, якое дазволіла прыватным натарыусам класці дзяржаўную пошліну сабе ў кішэню, і вяртання ў бюджэт часткі гэтай пошліны, патрэбна было рабіць крокі па стварэнні для прыватных натарыусаў цывілізаваных умоваў. Каб яны маглі працаваць і зарабляць вялікія грошы. Вось гэты крок зроблены не быў. І мне вельмі сорамна, што я не выканаў тое, што абяцаў.

***— Дык што, сапраўдныя спецыялісты ў адміністрацыі не патрэбныя?***

— На гэтае пытанне ўсе, у тым ліку прэзідэнт, адкажуць, што вельмі патрэбныя, але дзеля чаго? Каб працаваць самастойна — сапраўды непатрэбныя. Усе, ад кіраўніка адміністрацыі да сакратаркі, рэальна патрэбныя толькі ў якасці падсобных рабочых. І тае імкненне выведзе яго на правільны шлях, і ён дасць магчымасць кожнаму з нас раскрыць і выкарыстаць свае лепшыя якасці.

***— Атрымліваецца, падмануў вас Аляксандр Лукашэнка...***

– Думаю, у першую чаргу ён падмануў самога сябе. Ён паранейшаму верыць, што здольны змяніць жыццё ў лепшы бок, але гэта не так. І ніякіх парадаў звонку ён проста не прымае. Шэсць гадоў я назіраў за тым, як на яго спрабавалі ўплываць і што з гэтага нічога не атрымоўвалася. З дакументаў, што прыносілі яму тыя,


Фота Ул. ШЛАПАКА

атрымліваецца, што ўвесь дзяржаўны апарат, усе 70 тысяч чыноўнікаў – гэта ланцужок да аднаго чалавека, а ў такой сістэме большасць праблемаў нельга вырашыць.

***— Вы не адказалі на пытанне, што з сваіх напрацовак, з дакументаў, падрыхтаваных у адміністрацыі, лічыце сваім дасягненнем, чым можаце ганарыцца?***

— Я сёння нічым ганарыцца не магу. Якраз з прычыны таго, што як выканаўца я рабіў сваю працу кваліфікавана і добрасумленна, мая праца аказалася арганічнай часткай сістэмы, што вядзе нашую краіну да галечы. Таму нічым не ганаруся.

***— Раней вы казалі, што сыходзіце, бо Лукашэнка не можа выканаць таго, што абяцаў народу. А што з ягоных былых абяцанняў вас найбольш, так бы мовіць, падкупіла?***

— Я ўбачыў у ім шчырае імкненне дапамагчы народу пераадолець тыя цяжкасці, з якімі ён сустрэўся. Я быў упэўнены, што, у рэшце рэшт, гэхто хацеў нешта зрабіць, заставалася альбо нічога, альбо тое, што толькі яму і патрэбнае. Я зыходжу з таго, што не можа развівацца грамадства, у якім мае права дзейнічаць толькі адзін чалавек. Лукашэнка мог не разумець гэтага шэсць гадоў таму, але не цяпер.

***— Шмат прэтэнзіяў да Лукашэнкі тычацца ягоных дзеянняў. А што канкрэтна ён не зрабіў, за што вы яго крытыкуеце?***

— Галоўнае, чаго пры ім не атрымалася, гэта каб у нашай гаспадарцы ўкладзены долар даваў прыбытак. Наадварот, паўсюль, дзе магчыма, ён насадзіў іншы парадак, калі долар ператвараецца ў 90, 80, 70 цэнтаў. Праядаецца. Людзі зарабляюць усё менш, ім ужо на харчаванне заробку не хапае.

***— У супрацоўнікаў адміністрацыі заробкі апошнім часам таксама скараціліся? Вы вось колькі атрымоўвалі?***

— Увесь мой заробак быў у пераліку недзе пад сто долараў, і іх хапала толькі на самае неабходнае. Недахоп грошай заўсёды псаваў настрой. І адпаведна настроіў маіх калегаў.

***— Але Лукашэнка дагэтуль мае немалы рэйтынг. Скажыце, а калі рэйтынг будзе пад 10%, яго пра гэта праінфармуюць?***

— Думаю, што будуць цягнуць да апошняга моманту, каб схаваць такую тэндэнцыю. Пытанне ж можна задаць па-рознаму. Прыкладам, ці хочаце вы, каб цяперашні прэзідэнт жыў? Безумоўна, большасць адкажа – так. Але калі спытаюць без хітрыкаў, ці хочуць людзі, каб Лукашэнка і надалей заставаўся прэзідэнтам, і калі атрымаюць станоўчы адказ невялікай колькасці, то будуць гэты адказ хаваць. А пры 5%-м рэйтынгу я ўвогуле не выключаю, што яму яго ж падначаленыя прапануюць адстаўку ў абмен за пэўныя гарантыі. Прыйдзе да яго купка асобаў і скажуць: «Што зробіш, сыходзь, мы будзем калегіяльна кіраваць».

***— Вы лічыце, такія людзі могуць з'явіцца?***

— Я лічу, што 99% дзяржаўнага апарату складаецца з праціўнікаў цяперашняга прэзідэнта.

***– Чым яны не задаволеныя?***

— Яны лічаць, што здольныя зрабіць сваю канкрэтную справу, але іх прымушаюць займацца нечым непатрэбным. Неэфектыўным. Пры высокім заробку гэта яшчэ можна было б цярпець, але заробкі чынавенства зусім невялікія. А іншых стымулаў цярпець, напрыклад, ідэалагічных, таксама няма.

***— А вы як лічыце, хто пераможа на будучых прэзідэнцкіх выбарах?***

— Хутчэй за ўсё, працэнтаў на 80, гэта будзе чалавек з шэрагу вышэйшага кіраўніцтва дзяржавы на чале калегіяльнага органа. Апарат у нас цалкам савецкі, інстынкт самазахавання ў іх працуе добра, і, калі яны адчуюць пагрозу, здадуць каго заўгодна. Можа з'явіцца і нехта з сярэдняга звяна. Але не апазіцыянер – такога асабіста не бачу. Каля 15% стаўлю на чалавека, якога «зробіць» Масква. Пры дапамозе сучасных тэлевізійных выбарчых тэхналогіяў можна раскруціць нейкую марыянетку. Але навошта траціць грошы – лягчэй падпарадкаваць сабе ўжо абранага. А яшчэ 5%, што ўладу возьме нейкі новы чалавек, так званая «трэцяя сіла». ■

КНІГАРНЯ

З пачатку кнігадрукавання, ужо пяць стагоддзяў, лепшым падарункам сярод культурных людзей была і застаецца кніга. Для сённяшняй збяднелай Беларусі – кніга не толькі культурны, а, па сутнасці, і самы танны падарунак, які можна з гонарам зрабіць сябрам, родным, дзецям.

Дастойныя для падарунка беларускія кнігі можна знайсці на кніжнай выставе ТБМ (Мінск, вул. Румянцава, 11). У час летніх вандровак, сустрэчаў, выправы дзяцей за мяжу на выздараўленне варта мець для прэзентаў лепшую прыкмету нацыянальнай культуры, чым бутэлька гарэлкі.




Тэлефон кніжнай выставы – **284-85-11**.




Аптовы продаж выдання «Беларусь. Гістарычнае падарожжа для дзяцей». **239-15-32**.




Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка»
(г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1789 Нумар падпісаны ў друк 10/07/2000 (15:00) Наклад – 8.960

 